# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

...„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



№ 5
(104)

Vilnia, Maj 1937 h.

Hod IX.

UVAHA! NOVAŚĆ! UVAHA!

# Cennyja premii dla akuratnych padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi"!

**Niabyvałaja akazija zusim darma vyjhrać hadzińnik, sekatar, nažy da ščapleńnia dreŭ, cennyja knižki i inš. rečy.**

Administracyja „šlachu Moładzi“ pastanaviła sioleta vosieńniu raździalić miž akuratnych svaich padpiščykaŭ premii za ichniuju dbajnaść. Premii buduć padzieleny darohaj lasavańnia, da jakoha buduć dapuščany tolki tyja padpiščyki, katoryja apłacili, abo jašče apłaciać padpisku na „šlach Moładzi“ za hety sioletni 1937 h. (usiaho tolki dva złotyja).

## Śpis hałaŭniejšych premijaŭ:

1. Dobry hadzińnik na ruku
2. Sekatar (nožnicy da abrazańnia halinak dreŭ).
3. 2 nažy da ščapleńnia dreŭ.
4. „Гісторыя Беларускай Крыўскай Кнігі“ В. Ластоўскага, якая ў прадажы каштуе 15 зл.
5. „Пчолы“ — кніга аб пчалаводзтве Пачопкі.
6. „Гісторыя Беларускай Літаратуры“ М. Гарэцкага.
7. „Географія Беларусі“ Смоліча.
8. „Хрыстаматыя Беларускай літаратуры“ Дварчаніна.
9. Hramafonnaja plitka z biełaruskim narodnym tancam «Lavonicha» i z pieśniaj „A u lesie, lesie“ u vykanańni słaŭnaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha.
10. Partret biełaruskaha paeta M. Bahdanoviča.

*Apračа hetaha hatujem niespadzieŭku ŭsim akuratnym padpiščykam.*

Dyk chto choča być u liku dapuščanych da losavańnia premijaŭ niachaj zaraz pastarajecca apłacić padpisku. Chto-ž padpiski nie apłacić, toj nia budzie pryjmać udziełu ŭ losavańni i tamu vysyłka „šlachu Moładzi“ budzie strymana!

*Administracyja „Šlachu Moładzi.“*

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Падпіска на 1 месяц 20 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год - 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрыс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная вуліца № 1—2.

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, Май 1937 г. № 5 (104).

*Міхась Машара*

## ВІСЯТЫ

Над старым заглохшым садам,
Над таўпой вяковых ліп
Месяц лемешам шчарбатым
Да ваўністых хмар прыліп.

Выпаўз цень, як воўк кудлаты,
Лёг, расплыўся ў цішыне.
Ціш нямая... Сьпяць Вісяты.
Бродзіць шолах па траве.

Над разваліная палацу,
Міліёны зорных воч
Тых, тут згінуўшых ад працы
Памінае, пэўна, ноч.

Каля хаты, пад бярозай,
Штось каліне шэпчыць змрок,
Мо' аб сьнёным... аб прыгожым,
Што да нас ідзе здалёк?

Вісяты, 1936.

* * *

За косы сонца залатыя,
За зьнікшы раптам сіні лёд
Славамі цёплымі прастымі
Вітаю зноў вясны прыход.

Зьвіняць руччы... ў тумане раніц
Сакочыць п'яны цецярук
І хмелем песьні рассыпае
Па небе сонечным жаўрук.

Брыдзе ў плузе ізноў буланы;
Барозны першыя снуём.
Паркалем сінім выш заткана
І сонца ў лужынах — снапом.

І траўцы першай на узьмежку
Добры дзень хочацца сказаць,
І пад кустом лазы пралескі,
Як вочы любай, цалаваць.

Хачу паверыць нябыліцам —
У нагавор і тайны чар.
Пайду шукаць жывой крыніцы;
Каб лечыць боль і солад мар.

Пяшчоты сонца так чароўны,
Жывы зялёны веснашум,
А ў сэрцы ткуцца кросны чорных
І горкіх, як гарчыца, дум.

І радасьць—ціхая вясьнянка
Ў душы гнязда ня ўе сабе,
Замоўклі з песьнямі сялянкі,
Бо вёска родная ў бядзе.

Бяда глядзіць галодным вокам
На ніў разьвернены дыван,
І дзеці плачуць не знарокам
І жудзь гарыць ў вачох сялян.

І дні ідуць, і вечары,
І ноч зьмяняе раніца.
Сабакам так скалечаным
Жыцьцё у буднях цягнецца.

Ідзе яно кульгаючы
Па сьцежках, па выбоінах,
Кута свайго ня маючы,
Шчасьлівага, спакойнага.

Душа ты наша сьпячая,
Табой жыцьцё засмучана
І песьні ўсе зьвінячыя,
І маладасьць атручана.

Таболы, 24.IV.1937.

# Новыя плыні ў палітычным жыцьці

Год таму назад з усіх бадай старон чуваць было, што дэмакрацыя аджыла ўжо свой век, збанкрутавала і як няжыцьцёвая, разьлезлая, аканчальна загіне. У гэты самы час фашысты розных колераў ня спалі і рабілі сваё. У сьлед за Муссолінім і Гітлерам вылазілі: дэ-ля-Рок, Мослей, Дэгрэль і іншыя, прадсказваючы, што найбліжэйшая будучыня поўнасьцю будзе належаць да іх.

Але вось прайшоў год і бачым зусім што іншае. Дэмакрацыя, якая сапраўды, здавалася, была бязсільнай, апошнім часам усюды і ўсьцяж перамагае. Пачалося ад Гішпаніі, дзе выбары ў 1936 годзе далі перамогу дэмакратам. Пасьля ў Францыі перамог „Народны Фронт“, а сёлетняе перша-майскае сьвята паказала, што сілы францускай левіцы што-раз больш узрастаюць. Далей, у Швэцыі і Даніі ў часе выбараў у парлямант перамаглі сацыялістыя. У Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі аграмаднай большасьцю галасоў выбраны на прэзыдэнта кандыдат дэмакратаў — Рузвэльт. Апошні-ж месяц прынёс перамогу дэмакрацыі ў Бэльгіі над Дэгрэльлем і перамогу народна-левых кругоў у Японіі над фашыстаўска-ваеннай урадавай партыяй. У Польшчы ў масах узрастаюць уплывы „Стронніцтва Людовага“ і „Польскай Партыі Сацыялістаў“. Мослей з сваімі сінімі фашыстаўскімі сарочкамі зусім заціх і цяпер у Англіі кожны дзень прыносіць усё новыя і новыя перамогі сацыялістычнай „Партыі Працы“. Выбары прэзыдэнта ў Фінляндыі, а таксама бег жыцьця ў Чэхаславаччыне выяўляюць там перамогу дэмакрацыі. У СССР, дзе ўсёўладна пануе дыктатура Камуністычнай Партыі, што-раз часьцей пачынаюць гаварыць так-жа аб дэмакрацыі, а камуністы ў іншых гаспадарствах, усіх дэмакратаў, проціў каторых раней выступалі, — запрашаюць да супрацоўніцтва.

За гэты-ж самы час фашысты выявілі сваё сапраўднае аблічча. Муссоліні бязьлітасным, нялюдзкім нішчэньнем Абісыніі, а Гітлер крыкам аб экспансіі Нямеччыны, аграніччваньнем свабоды сваіх-жа братоў і безканечным збраеньнем паказалі ўсяму сьвету, чаго ім хсчацца і да чаго яны йдуць. Калі ж вылезла шыла з мяшка і калі фашысты пабачылі, што нормальным шляхам сваей мэты не асягнуць, дык пастараліся выклікаць у Гішпаніі хатнюю вайну, у часе якой хочуць здабыць там сабе ўладу.

І вось Гішпанія больш ужо як паўгода топіцца ў крыві і чым вайна кончыцца—дасюль ня можна сказаць. У кожным аднак ра зе гішпанскія падзеі прычыніліся да таго, што сяганьня дэмакраты ўсяго сьвету лучацца, ажыўляюць сваю дзейнасьць, узмацняюць сілы і даюць належны адпор грубой фашыстаўскай навале.

Рашучы адбой, на які наткнуліся фашысты ў Гішпаніі, вывеў, відаць, Гітлера з роўнавагі і ён адкрыта аб'явіў ужо вайну і Каталіцкаму Касьцёлу. У сувязі з гэтым у Нямеччыне пачалася шалёная агітацыя проціў каталіцкага духавенства. Гітлераўцы саджаюць тысячы ксяндзоў на лавы абвінавачаных і, закідваючы розныя нябыліцы, бязжаласна з імі распраўляюцца.

Проціўкаталіцкі гітлераўскі шал яшчэ больш узмоцніўся, калі Папа Рымскі афіцыяльна выказаўся проціў гітлерызму. І цяпер

у Нямеччыне адбываюцца проста нябывалыя рэчы. Нядаўна, напрыклад, у Бэрліне адбыўся вялікі працэс групы каталіцкіх ксяндзоў, на чале з шырока-ведамым кс. Росэн'ам. Пракурор рабіў ім многа і розных закідаў, а найгалаўнейшым „закідам" было тое, што кс. Росэн меў пацыфістычныя (міралюбівыя) пагляды(!) і праводзіў антываенную агітацыю... У выніку кс. Росэн дастаў 11 год вастрогу і пазбаўлены на 10 год грамадзкіх правоў. А ведама-ж усім, што праца дзеля супакою і зьліжэньня народаў ёсьць аднэй з галоўных ідэяў Каталіцкага Касьцёла. Пасьля такога прысуду ня трэба, хіба, шукаць больш доказаў дзеля пацьверджаньня варожых адносінаў гітлераўцаў да хрысьціянства і іхніх імкненьняў, бо ўсё прадстаўляецца выразна і ясна...

Зусім інакш выглядае палажэньне Каталіцкага Касьцёла ў Францыі, там, дзе ўлада належыць да левіцы, дзе на чале ўраду стаіць жыд, Блюм, і дзе сапраўды шмат хто думаў, што Касьцёл будзе прасьледаваны. У Францыі, аднак, як пішуць газэты, справа гэта пры новым урадзе адразу знайшлася на добрай дарозе. Бо з аднаго боку павадыры лявіцы заявілі, што яны не змагаюцца з Касьцёлам, але з капіталістамі, якія эксплёатуюць народ, а з другога-ж боку Парыжскі Кардынал Вэрд'е заклікаў каталікоў падтрымаць натугі левіцы пры грамадзкай перабудове. Цікава пры тым адцеміць, што радыкальны часапіс „La Lumiere" наракае, што за часоў левіцовага ўраду французскае радыё сталася аддзелам Каталіцкай Акцыі. Гэты-ж самы часапіс закідвае камуністам, што яны закінулі антыклерыкальную традыцыю. І сапраўды, камуністычная антыхрысьціянская акцыя змалела, і то ня толькі ў Францыі, але нават і ў СССР.

Пад уплывам падзеяў у Нямеччыне і ў сувязі з выступленьнем Папы проціў фашызму, таксама як і проціў камунізму, а такжа бяручы пад увагу суадносіны Каталіцкага Касьцёла з „народна-фронтавым" урадам у Францыі, выступленьне Бэльгійскага Кардынала-Прымаса проціў Дэгрэльля, ды супольны фронт каталікоў і левіцы ў Баскіі, аб чым пісалі мы ў прошлым нумары „Шляху Моладзі", паўстала новая і цікавая думка арганізаваньня супольнага і шырокага *дэмакратычна - хрысьціянскага фронту.* Падалі яе сацыялісты. І як ня дзіўна, але тое, што ня так даўно было-б нечым надта сьмешным, аб тым цяпер ідуць зусім паважныя гутаркі.

Пытаньне аб супольным дэмакратычна-хрысьціянскім фронце знайшло даволі шырокі водгалас як у прэсе дэмакратычнай так і ў каталіцкай. Дэмакраты— сацыялісты і народнікі, ясна, даказваюць, што дэмакратычныя ідэалы маюць вельмі многа чаго супольнага з хрысьціянствам, што дэмакрацыя змагаецца за сапраўдную свабоду, роўнасьць, братэрства, а гэтым самым і за свабоду людзкіх пракананьняў. Дэмакрацыя ганіць і выступае проціў кожнага гвалту, а гэтым самым проціў гвалту над рэлігіяй і проціў прасьледу Каталіцкага Касьцёла ў Нямеччыне.

Каталіцкі Касьцёл, бязумоўна, на фармальны супольны фронт з дэмакратамі, сярод каторых маса ёсьць людзей з сьветапаглядам матар'ялістычным, — ня можа йсьці і хіба што ня пойдзе. Тымбольш, што найвялікшым, здаецца, імкненьнем Рыму ёсьць заняць найвыгаднейшае становішча панад спрэчкамі і змаганьньнямі ўсіх партыяў, клясаў і кірункаў. Пры тым хрысьціянства

ў вечна сьвежай эвэнэлічнай крыніцы мае сваю шырокую і прыгожую грамадзкую праграму, за ўводжаньне ў практычнае жыцьцё каторай стаяць усе новачасныя адроджаныя каталікі.

Міма разыходжаньняў, фактам ёсьць, што хрысьціянства і дэмакрацыя ў сваіх асновах шмат чаго маюць супольнага; супольных таксама маюць ворагаў. Дзеля таго ёсьць аднолькавыя, бадай, выступленьні, каторыя у меру пасяганьня фашыстаў ці камуністаў на свабоду і правы чалавека-адзінкі, або цэлых народаў, будуць напэўна узмацняцца і зацесьняцца.

Як бачым, у жыцьці і барацьбе паявіліся новыя і цікавыя плыні. Дэмакрацыя — каторай спраўлялі ўжо хаўтуры — жыве і змагаецца за лепшае заўтра з новачаснай дзікасьцю. Перамога бязумоўна будзе там дзе справядлівасьць... А дзеля таго месца для нас Беларусаў у радох дэмакрацыі...

**Я. Н.**

---

*Максім Танк*

## НА АКОПАХ

Позна.
Абозы бежанцаў
сонца схавала з дарожным скрыпучым болем.
Першы раз бяз скаргі сьляпой пагарэльцаў,
бяз сьлёз барозны заснулі на полі...
Недзе далёка грымела яшчэ кананада.
З конскіх ног
перабітых
ручною гранатай,
на жоўтай дарогі пяшчанае лата
ціха густая крынічыла кроў.

Ў глыбокіх адчыненых сініх вачох
ўставала мяжа, за мяжою зялёныя гоні,
зоры ў вадзе,
густая атава,
нястоптаны мох,
начлег, і жаробка гнядая, і коні...
Недзе грымеў над зямлёй нясьціхаючы гром...
Выцягнуў шыю,
чакаў, можа дождж ам асьвежыць...
з чорных палосаў і з стаптаных межаў
пахнула спаленым сьвежа аўсом.
Днела... няўжо яшчэ сьпяць і коні і людзі?..
Няўжо яны кінулі сена, траву і калосьсе?..
Заржаў раз і другі...
Недзе ад спаленых хат
голас знаёмы пачуўся: ко—о—ся... ко—о—ся!..
Чакаў, каб яшчэ раз пагладзіў араты.
Выпаліў вочы да дна сьлёзаў распалены шрот.
Крокі... можа аброць зазьвінела... ціха...
Шыя апала на струны
калючыя — дрот...

25.IV.37.

# Šanujma svaich matak!

U mai miesiacy, jaki Katalicki Kaścioł pryśviačaje malitvam da Maci Božaj, uvieś kulturny śviet ładzić roznyja sabrańni, pradstaŭleńni i akademii ŭ česć žančyny-matki. Na schodach hetych nia tolki addajuć čeść matkam-žančynam za ich ciažkuju pracu nad uzhadavańniem moładzi, ale adnačasna raźvivajuć pačućcio pašany da jaje. Ad hetaj sapraŭdy kulturnaj akcyi nia možna adstavać i nam biełarusam, tymbolš što našy a žančyny, našyja matki žyvuć sapraŭdy



ŭ ciažkich varunkach, pracujuć uściaž i zaŭsiody, ad rańnia da način, nia majučy badaj zusim z hetaha nijakaj paciechi. A kolki-ž siłaŭ, enerhii, dušy, ščyraha serca i biezhraničnaj lubovi prajaŭlajuć biełaruskija matki ŭ adnosinach da svaich dziaciej! Jakija sapraŭdy vialikija zasłuhi majuć biełaruskija matki prad Biełaruskim Narodam, ulivajučy ŭ dušy svaich dzietak luboŭ da svaich rodnych nacyjanalnych zvyčajaŭ, rodnaj movy, pieśniaŭ, da svajho Kraju!... Usiaho hetaha sapraŭdy ciažka i nie mahčyma acanić. Dyk, za ŭsie ichnija dabradziejstvy i pracu prynamsia šanujma ich naležna! *Šanujma biełaruskuju žančynu, šanujma svaich matak i baćkoŭ!*

*Натальля Арсеньнева.*

# Вядзьмак.

Расказваюць людзі: Было неяк раз у Налібоцкай пушчы паляваньне. Пазьяжджаліся паны, сабралі лясьнікоў, зрабілі вялікую аблаву, — шмат ваўкоў забілі. Дык вось, як пачалі посьле з ваўкоў скуры зьдзіраць, — у аднаго ваўка і знайшлі пад скурай сукенку белую, вэлён, вяночак міртовы, — ўсё, як у маладой; а другі ізноў воўк быў пад скурай, як сват, ручніком падперазаны. Кажуць, што гэта даўно некалі адзін злы чараўнік — вядзьмака, раззлаваўшыся, што не папрасілі яго на вясельле — абярнуў усю свадзьбу ў ваўкоў.

Сонна ківаецца вецьце сасонак,
Гінуць у змроку камлі залатыя,
Вецер паветра нагрэтае мые
Сьвежасьцяй вечара... Ціха і сонна...

Ціха і сонна у змрочным гушчары.
Шэрай вужакаю сьцежка спаўзае
З мхоў заплясьнелых, з вячорнага гаю
Й гіне ў лагчыне глыбокай — у яры.

Цёмна у яры — лагчыне на'т летам.
Неба блакітнага там ня відаці,
Нават ня шле туды сонейка—маці
Косаў бліскучых, нагрэтых.

Дзікія травы, шыпшына, маліньнік,
Ягаднік буйны і лопух шырокі
Ночкаю летняй, ціхой, чорнавокай
Яр той заткалі, расшылі...

Там, пад крывою, скрыпучай асінай
Ў хаце падгніўшай хавае аблічча
Знахар магутны, вядзьмак—чараўніча,
З дзіўнае зьлеплены гліны.

Злы ён вядзьмака... Ягоныя вочы
Шлюць на нябачных усякае ліха,
Жудасна нават прамовіць паціху
Імя ягонае ўночы.

Моцны ён знахар... нячыстая сіла
Чорнай душою яго заўладала,
З сілай нялюдзкай вядзьмаку спазнала:
Ў злым — уладар ён, асілак...

Кажуць паціху, што ў цёмным гушчары
Ён як праз пень ці калоду кульнецца,—
Шэрым ваўком—ваўкалакам памкнецца
Ў нетры... Вялікія чары!

Ў жыце ён круціць улетку заломы,
Быдла марнуе, людзей уракае,
Жоўтаю сьвечкай васковаю тае
Той, на кім гнеў ён спагоніць..

Трудна й дзівіцца, што кожны сыходзіць
Злому з дарогі, гасьцінцы падносіць,
Пільна на свадзьбы, на хрэсьбіны просіць,
Нізка схіляецца, годзіць...

Толькі-ж гадзі, не гадзі, а заўсёды
Знойдзе няшчасьце да людцаў дарогу.
Пройдзе дзянёчкаў ці мала, ці многа, —
Кожны з бядой у заводзе.

* * *

Ў вёсцы далёкай, ля самых магілак
Новая кузьня стаяла і хата.
Жыў там каваль да работы заўзяты,
Лоўкі, здаровы, асілак...

Сьмелы ён быў, не баяўся нічога,
Кпіў сабе з гора, сьмяяўся з нядолі.
Эх, не гадзіў ён, як кажуць, ніколі
Віламі чорту, а сьвечкаю Богу!

Вось і надумаў каваль ажаніцца,
(Знудзіцца-ж век дзяцюком векаваці),
Просіць даўно ўжо старэнькая маці.
Цяжка ёй з працаю біцца.

Добра... з стрэчным сабраліся братам,
Медны званок пад дугой падвязалі,
Новыя сьвіткі наклалі і далей
Вечарам ціхім у сваты!

Ў хату ўвайшлі, ўсім далі „пахвалёны,“
Селі на лаве... Вядомае дзела...
Сват тут пачаў аб скацінцы нясьмела
Гутарку клеіць, аб лёне...

Слова за словам... Што-ж, ясная справа!
Чыстую хустку на куце паслалі,
Пляшку з глыбокай кішэні дасталі...
Выпілі... будзе забава!

Выпілі болей... Што-ж, будзе вясельле,
Хлопец, як явар, дзяўчына-ж як ліпка,
Стан яе гнуткі, а сьмех яе сыпкі,
Эх, прыварожыць бяз зельля!

* * *

Свадзьбу гуляці ўзяліісь на Пакровы.
Цэлую вёску ў царкоўцы бы згледзіў,
Ўсіх папрасілі, радню і суседзяў,
Толькі вядзьмаку — ні слова.

—„Будзе ўжо, досыць чмута нагасьцілі,“
Кпіў малады,—хай вурчыць у бярлозе,
Ногі ён зломіць на нашым парозе,
Глупства ўсё, казкі ці былі!“

Праўда, прасіла сынка каваліха
Ў свадзьбу паклікаць вядзьмаку старога...
Толькі-ж ідуць маладыя дарогай
Іншаю... кпяць яны з ліха.

Так і прайшоў без вядзьмакі, на згубу,
Першы дзянёчак вясёлы і хмельны
— — — — —
Шпарка шнур госьцяў разгульных, вясельных
Едзе з музыкай ад шлюбу.

Мкнецца вясельле па гразкай дарозе,
Мокры пясок раскідае й камечыць.
Гойкае сват з ручнікам цераз плечы, —
Сыплецца ліст з вербалозьзя.

Коні званкамі мядзянымі звоняць,
Ў возе, прыбраным у кветкі, істужкі
Рэжуць музыкі прыпеўкі—частушкі,
Свадзьба пяе і гамоніць...

Гучна, вясёла... ды раптам ірвуцца
Песьні ў паветры... Зьбялелыя твары
Пільна штось сочаць у цёмным гушчары,
Коні храпуць і грызуцца!

Жудасным зданьнем, пануры, высокі
З пушчы выходзіць... гасьцей аглядае,
Идзе да калёс, дзе сядзіць маладая, —
Злосны вядзьмар чарнавокі.

— „Што, не хацелі на вашым вясельлі
Мецi вядзьмаку, дурныя галовы?"
Хрыпла шапнуў ён і гэтыя словы
Дзіўнай жудой зазьвінелі.

—„Што, не хацелі? Дык я, маладыя,
Ў госьці прашу вас з раднёю, з музыкай,
Гэй-жа, вылазьце!" Загойкаў, засыкаў...
...Выючы глуха, ваўкамі рудымі

Скочыла свадзьба і ў змроку вячорным
Ўсьлед панясласяза злосным ведзьмакам,
Шэрым, мацёрым ваўком—ваўкалакам,
Пушчай разбеглася чорнай...

---

Кажуць, што й сяньня, ў асеньнія ночы,
У хрыплай мэлёдыі воўчага вою
Сьпеў — прычытаньне чуваць маладое,
Поўны распачы, нямочы.

Кажуць, што воўчая свадзьба над гацяй
Плача палюдзку... Таму мо' і раніць
Нашае сэрца, хвалюе й туманіць
Воўчага вою пракляцьце?

1937 г.

# Канцэрт Міхала Забэйды-Суміцкага
## і Беларускага Хору Р. ШЫРМЫ

Новы ўрад Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні за кароткі ўжо час паказаў, што ўмее працаваць. Найгалаўнейшай хіба будзе пазыцыяй у ягонай дзейнасьці сарганізаваны ў нядзелю 16-га мая сёлета канцэрт слаўнага мастака сьпеву Міхала Забэйды-Суміцкага і ведамага Беларускага Хору Р. Шырмы.



МІХАЛ ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ

Канцэрт гэты адбыўся нязвычайна ўдала. Аціанілі-ж яго дадатна ня толькі самы беларусы, але й прадстаўнікі іншых нацыяў.

Каб не пасудзілі нас у пустахвальстве, ніжэй перадрукоўваем з віленскай польскай газэты „Слово“ (№ 135 з дня 18.V.1937) рэцэнзію ведамага польскага кампазытара і музыкальнага крытыка праф. Міхала Юзэфовіча, каторы сёлета сьвяткаваў 50-цігодзьдзе сваей музычнай працы. Вось-жа праф. М. Юзэфовіч піша:

„Нядзельны канцэрт, сарганізаваны Беларускім Студэнцкім Саюзам УСБ, адбыўся ў запоўненай залі Сьнядэцкіх УСБ з нязвычайнай мастацкай удачай.

Гэтак удалы вынік быў перадусім дзеля таго, што ў канцэрце браў удзел ведамы ўжо Вільні малады тэнар *Міхал Забэйда-Суміцкі,* які здабывае штораз большы розгалас у розных эўрапэйскіх краёх. Яго мілагучны, дасканальна апанаваны голас, у спалучэньні з вялікай артыстычнай культурай ёсьць на ўслугах выкананьня перасычанага беспасярэднім нутраным адчуцьцём зьместу твораў і іх настрою. Выразная і акуратная дыкцыя, у чатырох языкох, узмацняла ўражаньне вельмі сымпатычнага і высока-мастацкага сьпеву. Усе прадукцыі былі на вельмі высокім мастацкім роўні, як небісаваныя, так — з прычыны спэцыяльнай папулярнасьці твораў, як арыя Ленскага — бісаваныя, якія выклікалі шчыры энтузыязм, выяўляны ў гураганных воплесках і многіх дарах кветкамі. Абедзьве часткі канцэрту пачынаў Беларускі Хор, каторы выканаў цэпы рад народных песьняў, у мастацкай апрацоўцы для мяшанага хору. Ня надта вялікі гэны хор, вельмі добра ўзгоднены, сьпяваў чыста, прыгожа цянюючы рознастайнай дынамікай і выразнай дыкцыяй, што, бязумоўна, зьяўляецца заслугай акуратнага і ўмелага кіраўніцтва п. Рыгора Шырмы, сталага дырыгента гэтага хору.

Ведамы добра нашай публіцы праф. Канстанты Галкоўскі яшчэ раз пацьвердзіў сваю заслужаную апінію, таленавітага кампазытара некалькіх твораў, прапяяных на гэтым канцэрце, і нязвычайна добрага акампаньятара да сьпеву.“

Гэткую справаздачу напісаў з беларускага канцэрту польскі кампазытар і крытык. Здарэньне сапраўды рэдкае, але і сапраўды прыемнае. Ад сябе фактычна маем мала чаго паясьняць і дадаваць.

Міхал Забэйда-Суміцкі сьпяваў нязвычайна прыгожа, — спачатку паіталіянску, пасьля папольску, парасейску і найбольш пабеларуску. Ён фармальна валадаў прысутнымі, ад воплескаў каторых заля грымела пасьля кожнае песьні. Калі-ж пачаў сьпяваць беларускія песьні, захапленьне было безгранічнае. Сцэна, на якой стаяў слаўны наш мастак, была закідана кветкамі, каторыя ляцелі з усіх старон. Артыст быў змушаны паўтараць бадай кожную песьню, і канца здаецца гэтаму ня было-б, калі-б ня тое, што больш сьпяваць не пазвалялі ўжо сілы. Асабліва захаплівалася сьпевам моладзь, ад імя каторай дэлегацыя студэнтаў уручыла М. Забэйдзе-Суміцкаму кошык кветак і падарак у форме беларускіх народных тканінаў. Уручаны былі так-жа кветкі грам. Р. Шырме і праф. К. Галкоўскаму.

Канцэрт 16.V.1937 г. астанецца глыбака ў памяці кожнаму беларусу; ён прычыніўся да яшчэ большай папулярнасьці прыгожай нашай народнай песьні і вялікага мастака гэтай-жа песьні М. Забэйды-Суміцкага.

---

Міхал Забэйда-Суміцкі займае ўжо ў мастацкім сьвеце на тольki высокае месца, што сапраўды трэба кожнаму пазнаць яго крыху бліжэй. Радзіўся ён у 1900

годзе ў в. Шэйпякі каля Ружаны, Косаўскага пав. Вырас у сялянскай сям'і, пазнаў жыцьцё з яго вясковымі бедамі і радасьцямі, навучыўся любіць свой край і народную беларускую песьню.

У 1915 г. ваенная бура закінула яго на ўсход: у Смаленск, Пензу, Барнаул на Сыбіры і ўрэшце аж у далёкі Харбін. За гэты час М.З.-Суміцкі здабыў сярэднюю і вышэйшую асьвету і адначасна працаваў як настаўнік у розных школах. Усьцяж, аднак цягнула яго да песьні і ён у Харбіне пачаў грунтоўна працаваць над сваім голасам ды наагул над музыкай, пад кіраўніцтвам партнэркі слаўнага расейскага сьпевака Шаляпіна Юліі Плотніцкай, Мэттэра і Томашынскай. Тут так-жа пачынаюцца яго першыя выступленьні ў Харбінскай Опэры, як саліста ў ролі Ленскага ў опэры „Евгеній Онегін“ — Чайкоўскага, у ролі князя ў оп. „Русалка“ — Даргомыжскага і цара Берандзея ў оп. „Снегурочка“ — Рымскага-Карсакова і інш., якімі здабыў ён сабе вельмі прыхільную ацэну мясцовай расейскай і кітайскай прэсы.

Артыст, як чуткі мастак, не паддаецца аднак аднагалоснай хвальбе і ў 1932 г. пакідае Харбін выяжджаючы ў сонечную Італію, у Мілан, каб там далей працаваць над сваім голасам пад кіраўніцтвам ведамага прафэсара Фэрнандо Карпі. І тут, як і ў Харбіне, дзякуючы сваім здольнасьцям і працавітасьці, зьвяртае на сябе ўвагу — яго ангажуюць у Міланскую Опэру Італьянская музычная крытыка ў афіцыяльным органе Акадэміі Музыкі „Giornale del Arte“ раўняе Міхала Забэйду-Суміцкага з слаўным італьянскім тэнарам М. Скіпай ды з ведамым усей Эўропе расейскім сьпеваком Л. Собінавым. Падобна адзываліся аб ім таксама іншыя італьянскія крытыкі, падчас ягонага канцэртавага турнэ па Італіі, якія трафна зазначалі, што артыст сьпявае ня толькі голасам, але і душой. Напр. „Corriere di Savona“ пісала: „Тэнар Міхал Забэйда-Суміцкі і гэтым разам пацьвердзіў здабычы з апошніх сваіх артыстычных падарожжаў. Ён здраджае ўражлівую душу мрыючага паэта, гэтак характэрыстычную для славянаў. Ягоны голас робіць уражаньне дасканальнага інструмэнту, які здабывае і чаруе слухачоў“.

Пасьля амаль чатырох гадовага пабыту ў Італіі артыст-сьпявак вярнуўся ў 1935 годзе на Бацькаўшчыну, ад якой быў адарваны роўна 20 гадоў. Пасьля некалькіх удачных канцэртных выступленьняў, ён прыняў запросіны ў Пазнань, дзе выступаў салістам у опэрах: „Uprowadzenie z Seraju“ — Моцарта, „Юлій Цэзар“ — Гэндля, „Евгеній Онегін“ — Чайкоўскага і інш. Кончыўшы свой кантракт з Пазнанскай Опэрай, Забэйда-Суміцкі не ўзнавіў яго, а пераехаў у Варшаву, дзе дае публічныя канцэрты, сьпявае ў Польскім Радыё. З Варшавы езьдзіў у Латвію і сьпяваў у Радыё ў Рызе. У Варшаве, падобна, як і ў іншых мясцох, належна ацаняюць артыстычны талент Забэйды-Суміцкага, аб чым сьведчаць прыхільныя водклікі польскае прэсы розных кірункаў.

М. Забэйда-Суміцкі ў сучаснасьці ёсьць найлепшым выканаўцам беларускай песьні. І нядаўна, як мы ўжо пісалі, насьпяваў ён на грамафонныя пліткі дзесяць прыгожых беларускіх песьняў, якія пайшлі ў далёкі і шырокі сьвет.

Словам, Міхал Забэйда-Суміцкі мае ўжо немалыя заслугі і перад Беларускім Народам. Ён усьцяж і бязупынна расьце. І мы яму шчыра жадаем на гэтым шляху дальшага росту і ўдачаў!..

**J. N.**

# Паэт

Адзін паэт хадзіў па сваім краі і апяваў яго. Ліра ягоная ня знала супачынку. Ён апяваў і першабытную дзявічасьць ягоных лясоў, і хараство рунеючых ніў, і шум баравы адвечных пушчаў, і мільённыя галасы птушак над красуючай сенажацяй. Ён апяваў і тужліва-сьпеўнае шаптаньне ручаёчка, і грознае бурленьне ракі, узгоркі і даліны, месты і вёскі, хлапцоў і дзяўчат.

Ён апяваў і слаўную мінуўшчыну народу і ягонае імкненьне да лепшае будучыні.

Словам, усе, на што ён ні глянуў, усё было крыніцай ягонага натхненьня.

Жыў паэт бедна — як і той народ, сынам якога ён быў. Аднойчы прыйшоў да паэта нехта багаты, магутны і сказаў яму.

—„О, ты вялікі і слаўны! Ты багаты духам, але бедны матар'яльна. Вопратка твая саматканная, а ногі твае ў грубыя боты абутыя. Чорны хлеб і бульба ёсьць штодзенным тваім спажыткам, а вада — напіткам. Жыцьцё тваё ёсьць безканечным змаганьнем з бядою. Хочаш, дык я зраблю цябе багатым, шчасьлівым. Цела тваё будзе пакрыта дарагімі заморскімі тканінамі. Смагу сваю будзе праганяць каштоўнымі вінамі. Жыць будзеш улетку ў раскошнай вільлі па беразе люстранога возера, між араматных красак і прыгожых дрэў, а ўзімку ў багатых палацах у горадзе. Найпрыгажэйшыя кабеты зажадаюць твайго знаёмства і ты будзеш іх ідэалам. Усё, чаго ты ні захочаш, будзеш мецi. Жыцьцё тваё будзе як дзіўны сон, як казка. Толькі пакінь народ свой, перастань апяваць яго, а складай гымны тым, хто будзе плаціць табе.

Паслухаў паэт. Пакінуў народ свой і край. Настроіў ліру сваю на другі лад і захацеў пяяці. Але ліра маўчала. Надарма паэт удараў у ейныя струны. Надарма сіліўся стварыць дзіўныя песьні і гымны. Іх ня было.

Ня было...

Бо ня было крыніцы, скуль бы мог браць ён натхненьне.

*Р. Бульбаед.*

---

* * *

Я ня знаю, што такое
І каго у тым вініць,
Што ў душы маей спакою
На'т за грошы ня купіць.

Найхутчэй яго забралі
Тыя чорненькія вочкі,
Што так міла пазіралі
Ў вечар майскі у садочку.

*М. З.*



# Za praduktyŭnuju pracu

Intelihiencyi, choć pa krysie, ale prybyvaje i prybyvaje. I siańnia možna ŭžo spatkać lekaraŭ na miescy felčaraŭ i sanitaraŭ, inžynieraŭ na miescy prostych rabotnikaŭ i h. d. A maturysty, zapoŭniŭšy duchoŭnyja seminaryi i škoły aficerskija, hramadami abivajuć parohi hmin, sejmikaŭ, vajavodztvaŭ, prosiačy pasady, a tolki nievialikaja ich kolkaść idzie na universytet, dzie paśla 6 hadovych studyjaŭ atrymajuć dyplom, a redka i pasadu.

Čamu-ž hetyja ludzi nia mohuć sabie znajści pracy?

Tamu, što hramadzianstva jość za biednaje, kab kožnamu, chto navučyŭsia čytać i pisać, dać pasadu. Dy hramadzianstva nia maje nijakaha abaviazku kłapacicca ab žyćci taho čałavieka, katory jość jamu niepatrebny, abo kali j patrebny, dyk kali, hetych patrebnych jość zamnoha. A dziela hetaha treba skončyć z pradukavańniem intelihiencyi niepraduktyŭnaj. Vučycca treba nie pa toje, kab być u kancelaryi pisakam —uradaŭcam, a pa toje, kab mahčy pradukavać dla hramadzianstva j sabie patrebnyja rečy. U kancelaryi mohuć pisać kaleki, invalidy, žančyny, dva try zdarovych ludziej, a ŭsim treba pracavać nad vytvorčaściu rečaŭ patrebnych da žyćcia i dabrabytu.

Elementaŭ patrebnych čałavieku da žyćcia jość mnoha, ale najhałaŭniejšyja, za katoryja siahońnia tysiačy kładuć hałovy, heta jość pamieškańnie, adzieža i chleb. Abminaju tut patreby kulturalna-duchovyja, ale jany taksama buduć mieć lepšy prypynak pry dabrabycie mataryjalnym. Što da pamieškańnia i adziežy, to hliny na cehłu i vapny nam zaŭsiody chopić, dy i lesu ŭ nas nie zamała; aviečki ŭ nas dobra hadujucca i lon raście — pryadziecca možam. Astajecca tolki chleb. Heta jość najbolš balučaje i najvažniejšaje pytańnie, adnak raźviazać jaho možna. U nas ziamla jość u 6—7 razoŭ mienš vykarystana, čymsia ŭ takoj Niamieččynie, Belhii. Padumajcie, kab u nas tak stajała ziemlarobstva, jak zahranicaj, takaja Polšč mahła-b vykarmić chlebam 180 miljonaŭ ludziej. Dzie-ž byli-b tyja dziesiatki tysiač biezrabotnych, hałodnych i abdziortych ludziej?! Ich nia było-b, jany ŭsie pracavali-b i za heta mieli-b naležnyja varunki da žyćcia.

Adnak, kab da hetaha dajšło, to treba imienna vučycca vykarystyvać pryrodu, a nia tolki čytać i pisać.

U interesie moładzi i hramadzianstva jość, kab u nas było jaknajbolš fachovych škoł, a pieradusim ziemlarobskich i hadaŭlanych. Bo sialanstva jość u nas padstavaj hramadzkaha ładu i ŭ jaho varštat pracy treba ŭlić kulturu, treba dać sielaninu sučasnyja zdabyčy navuki i praktyki. Bahaciejšaje i kulturniejšaje sialanstva pavysić svoj rovień žyćciovy. Dojdziem da hetaha adnak tolki tady, kali ŭ nas najmienš 80 prac. ahulna adukacyjnych škoł źmieniacca na fachovyja i buduć pradukavać sapraŭdnych intelihientaŭ, a nie hultajoŭ z doŭhimi kipciami, jakija tolki starajucca pasady i lohkaha chleba.

Słovy hetyja projduć biaz bolšaha vodhuku, bo staić šmat pryčyn na pieraškodzie. 1. Čužaja tradycyja, „być na pasadzie“, zapuściła ŭ nas nadta hłybokaje karańnie, bo jak pisaŭ Mickievič: „Szlachcic bez urzędu, jak chart bez ogona“. 2. Čužyja intaresy nakidajuć mnoha himnazijaŭ, ahulnych škoł, kaściołaŭ, a tolki dzie-nia-dzie maleńkuju školku ziemlarobskuju.

3. Niedachop fachovych ludziej i niezrazumieńnie haspadarča-pramysłovaha ŭzmacnieńnia kraju.

Biełaruskaja moładź, na jakoj lažyć adkaznaść za budučyniu našaj Baćkaŭščyny, pavinna zrazumieć, što mała być tolki konsumentam (spažyŭcom), ale treba być i pradućentam. Niachaj ludzi karystajuć z pładoŭ našaj pracy i našaj navuki, a nia my z harotnych pładoŭ zahnanaha sialanina. Tym bolš, što u taŭpie prosiačych pasad nas biełarusaŭ „nia bačać". Mnohija z nas majuć ziamlu, dyk starajmasia vypradukavać z adnaho kałasa — dva, jak žadaŭ hetaha pruski karol Frydrych Vialiki. Inšyja-ž niachaj buduć ślosarami, inžynierami, rybakami, pčalarami, lekarami i im p. Tady prystupim da pracy nad vykarystańniem našaj ziamielki i našych naturalnych bahaćciaŭ naahuł, i byt naš papeŭna papravicca

Słovy hetyja niachaj pryjmie pad uvahu pieradusim taja našaja moładź, jakaja kančaje adny školy i dumaje ŭstupać u druhija, a taksama i taja, jakaja zdabyŭšy pačatkavuju aśvietu nia moža dalej vučycca ŭ škole, a prymušana šukać sabie pracy i chleba.

**Dr. J. Malecki.**

## Абнова Бел. Нацыянальнага Камітэту.

Згодна з сваім рэгулямінам Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні што год абнаўляецца. Сёлета абнаўленьне гэтае адбылося ў месяцы маі. Да 15 мая 12 беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў выдэлегавалі сваіх дэлегатаў, якія на агульным гадавым сходзе 21 г. м. выбралі новы прэзыдыум Камітэту, у складзе: Інж. Ад. Клімовіч—старшыня, Адв. Ф. Стэцкевіч і Д-р Ст. Грынкевіч — віцэстаршыні, М. Манцэвіч—скарбнік і рэд. Я. Пазьняк — сэкрэтар. Акрамя таго Сход дэлегатаў прыняў рэзалюцыі аб патрэбах Беларускага народу і даручыў прэзыдыуму парупіцца аб сарганізаваньні камісіяў: асьветнай, рэлігійнай і дапамаговай бел. студэнцтву.

## Палешукія

*(Фэльетон).*

Слаўны прафэсар унівэрсытэту ў Пазнані доктар Марцін Надобнік заняўся высьвятленьнем прыросту насяленьня ў Польшчы. Але таму, што сам ён Пазнанец, дык і заняўся шчырэй бліжэйшым яму абшарам. Калі прагледзіў адпаведныя статыстычныя даныя, дык мусіў са страхам сьцьвердзіць, што „Велькапольска" вымірае, асабліва вылюдняецца вёска. За цэлыя 10 год — ад 1921 да 1931 году — мала таго, што ня прыбыло народу, але йшчэ трохі паменшала. Гэта можа і ня кепска было-б, можа паважаны прафэсар і не бедаваўбы — усё менш безработных будзе, — каб не адна рэч. Справа ў тым, што „Крэсы Всходне" вельмі разрастаюцца. І тут ужо спакойна спаць ня можна, бо гэтыя бушмэны, „крэсовякі" не глядзяць, што хлеба няма—разьвіваюцца, растуць і множацца. І то як множацца. Каб гэта проста так, „палюдзку" — то яшчэ можна цярпець, але дзе там — яны растуць, як грыбы па дажджы. Даволі сказаць, што на „Крэсах", паводле прафэсара Надобніка („Ilustrowany Kurjer Co-

dzienny“ Nr. 77) за 10 год ёсьць 33 прац. прыросту, у той час, калі Пазнаншчына мае 1 прац. недабору.

І як вам гэта падабаецца, а!? Нідзе такога прыросту няма, на‘т „Русіні“ маюць мала што больш, як 12 прац., тое самае „Крулевякі“ (цэнтральная Польшч). А тут на табе — 33 прац. То-ж гэта за галаву чалавек хапаецца. Але гэта йшчэ не бяда. З гэтым то йшчэ можна мірыцца. А вось Палесьсе, гэты „дзікі“ край балота ды вады—мае аж 53 прац. прыросту за 10 год. Тут ужо і сам „лысы“ ня вытрымае, мусіць заплакаць. Бо і як-жа? Ужо дзе, кажуць, бяда — гэта на Палесьсі, дзе кару ядуць — на Палесьсі, дзе цемната — на Палесьсі, дзе забабоны — на Палесьсі. Адным словам — Палесьсе, гэта ўасабленьне ўсяго ліхога на зямлі. І раптам 53 прац. прыросту.

Тут мала таго, што бяссоньніца, але на‘т сухоты прыпадуць з жалю ды зайздрасьці. Недзе там на сьвеце Гітлер з Мусолінім і просяць і ўгаварваюць, нагароды даюць, а непаслушных карамі страшаць — нічога не памагае. А нам кажуць, што яны там народ разумны, „куртульны“. Мусоліні кажа — „толькі вялікі, плодны народ не прападзе“. Усёроўна нічога з гэтага няма. Паслухае яго прамовы „фрау“ ці „мэдхэн“ (дзяўчына), вернецца з мітынгу да хаты, а радзіць ня хоча. Прыродзе, як відаць, закону не напішаш і ,,куртуля“ не памагае. А тут наш цёмны, ,,някуртульны“ палешук, на‘т радыя ня слухае, бо ня мае (а дзе ўжо яму да Гітлера дабірацца), а дзяцей — глядзіш, мае паўтузіна. І гэта, так сказаць, бясплатна, а прыабяцай ты яму нагароду за дзеці, так ты браце найменш тузін налічыш.

А калі так пойдзе, грамадзяне, далей, ведаеце, мы бедаваць ня маем чаго. Бо за 1000 гадоў Палешукі разрастуцца да нейкіх біліёнаў ці квадрыліёнаў — ну адным словам, да такіх лічбаў, якіх проста чалавек сваім простым розумам ахапіць ня можа. Бяда толькі ў тым, што тады ня толькі на Палесьсі, але агулам на цэлай зямной кулі ня хопіць для нас месца. Можа б ужо цяпер, загадзя трэба было падумаць, дзе-б гэта Палешукам перасяліцца. І калі яны гэтак множацца, то няма мовы, каб да іх слаць каляністаў, бо яшчэ ім трэба шукаць прытулку на зямлі. Але з часам і на зямлі ня хопіць ім месца, паляцяць тады мае землякі на Марс, месяц ці іншую планэту і ўсюды занясуць сваю мову, свой звычай. Тады ўжо не будзе, ані Англіі, ані Амэрыкі, ані Японіі— усюды, дзе толькі нага людзкая ступіць, будзе адзін народ, адна дзяржава — Палешукія.

Тады і звады ня будзе, адзін другога за грудзі хапаць ня стане, з-пад цішка нажом ныраць ня будзе — бо будуць насяляць сонечную сыстэму — Палешукі, гордасьць сьвету. Шкада толькі, што мы да таго часу не дажывём, памром, бедакі, і пахаваюць нас можа на‘т без папа ці ксяндза, бо няма чым яму заплаціць. І не заплача можа па нас ніхто, на‘т нашы блізкія, бо ,,скажуць“ —памёр, такой бяды...—ўсё менш ратоў да стала садзіцца будзе“. І не засьпявае нам салавей сваю прыгожую песьню, бо на нашых могілках растуць (могілкі ў большасьці на пяску) толькі сосны, а салавейка любіць бэз, крушыну і іншую лісьцяную пароду.

Эх, чаму мне не радзіцца гадоў з тысячу пазьней.

*П. З.*

## Na pamiatnik Antonu Levickamu ŭ Vilni

achviaravali:

Red. Kalehija „Šlachu Moładzi“ 50 zł., Stanisłaŭ Stankievič 5 zł., H. Jankoŭskaja 1 zł., P.-O. 50 hr., V. Šyškoŭski 2 zł., A. Chodźka 1 zł., J. Charytanovič 1 zł., Dr. B. Turonak 5 zł., Ks. Ad. Stankievič 5 zł., *** 3 zł., D-r J. Stankievič 10 hr., Ks. St. Hlakoŭski 5 zł., Mačiukas 1 zł., Suchaja Hanna 2 zł., Dr. M. Marcinčyk 5 zł., Ks. prał. H. Betto 20 zł., P. Łastaŭka 3 zł., a. A. Dubroŭski 2 zł., Ks. A. Bakinoŭski 10 zł., Ks. J. Rešeć 5 zł., J. Muraška 3 zł., V. Osiecimska 3 zł., E. Kr. 5 zł. adv P. Šviryd 5 zł., M. Saŭka 2 zł. — Usich, chto nie złažyŭ dahetul achviary i kamu sprava budovy pamiatnika na mahile bieł. paeta Ant. Levickaha—Jadvihina Š. jość blizkaja, prosim zrabić heta jak najchutčej. — Pryhatavaŭčaja praca da budovy pamiatnika ŭžo pačałasia.

*Red. Kalehija „Šl. Moładzi“.*

---

## Čaho pavinien prytrymlivacca kulturny čałaviek

1. Kulturny čałaviek jość zaŭsiody čysty. Myjecca nia tolki rana, ale i naahuł tady, kali zabrudzicca. Nikoli nie kładziecca spać pa ciažkoj pracy, nie pramyŭšysia pierad hetym. Myje nia tolki ruki i tvar, ale taksama i cieła. Myjecca zaŭsiody myłam u čystaj vadzie i vycirajecca čystym ručnikom. Kupajecca jak najčaściej nia tolki ŭ chacie, ale i na volnym pavietry, u rečcy. Čyścić usie nohci, nikoli ich nie abhryzaje, ale, jak treba, abrezvaje, myje zuby;

2. Kulturny čałaviek nosić zaŭsiody čystaje chuście (bializnu), źmianiaje jaho raz na tydzień. Čaraviki i adziežu zaŭsiody čyścić i trymaje ich u paradku. Špić na čystym łožku i nia robić z jaho ani šafy na vopratku i chuście, ani kresła da siadańńia.

3. Kulturny čałaviek nia dychaje praz vusny, a tolki praz nos; vydychajučy nia dźmuchaje na druhich dy nia zbližaje svajho tvaru da tvaru druhich. Kali kašlaje abo čchaje — zakryvaje tvar chustačkaj, nia pluje nikoli na padłohu i nie paciahvaje nosam. Chustačka ŭ jaho čystaja, paśla vycirańnia nasa nikoli ŭ jaje nie zahladaje — bo ničoha nie znojdzie. Nie kałupaje ani ŭ zubach, ani ŭ vušoch, ani ŭ nosie. Kali havoryć, nie starajecca nikoha pierakryčać ani pyrskaje na jaho ślinaju.

4. Kulturny čałaviek lubić śviežaje pavietra. U chacie, u ciahniku adčyniaje jak najčaściej vokny. Kali kuryć — nie robić hetaha nikoli ŭ pakoi, dzie jość małyja dzieci abo chvory. Starajecca kuryć jaknajmienš u prysutnaści asob, katoryja hetaha nia lubiać, nia puskaje nikomu dymu pad nos, dy nia kuryć u miescy, dzie jość nadpis: „Kuryć nia možna“. Vykuranych papiarosaŭ i spalenych sierčykaŭ nia kidaje na padłohu.

5. Kulturny čałaviek pavinien jeści stolki, kab tolki nia być hałodnym. Jeść pry čystym stale z asobnaj talerki, abo miski. Nie biare rukami, a tolki łyžkaju abo videlcam ci nažom; jeść cicha i nie łapčyva. Kali ŭstaje ad stała, dyk nia sklikaje sabak, katoŭ, kurej i h. d. dla źjadańnia reštak.

6. Kulturny čałaviek šanuje svajo zdaroŭje, bo heta najbolšy skarb — katory vymahaje adpaviednaha dahladu. Zdaroŭje heta nia tolki naša ŭłasnaść ale—taksama — svajej nacyi, narodu, — bo čym zdaraviejšy čałaviek — tym bolš moža dać z siabie, čym słabšy — tym bolš biare ad druhich; uva ŭsim umierkavany, nia robić ničoha takoha, što mahło-b paškodzić ci to zdaroŭju jaho ci druhich. **(„Skiba“).**

# Vulkany i ichniaje dziejańnie

Ziamla naša maci, na jakoj žyviom, jakaja nas kormić i jakuju vučonyja daśledžvajuć, uściaž abjaŭlaje novyja znaki, što nutro jejnaje raspalenaje i burnaje. Voś niadaŭna, bo tolki na pačatku miesiaca maja sioleta, u adnej z krain Paŭnočnaj Ameryki, z niavyjaśnienych pryčynaŭ ziamielnaja skarłupina raščapiłasia, tvoračy hłybokuju, na paŭtara metra šyrokuju i 100 kilomatraŭ doŭhuju ščylinu. Ščylina heta ŭ niekatorych miascoch razarvała darohi, budynki i čyhunki. Šmat chto dumaje, što ŭ chutkim časie vybuchnie tam vulkan i budzie strašennaje ziemlatrasieńnie. Nadziei hetyja nie biespadstaŭnyja, bo ŭ historyi čałaviectva byli ŭžo padobnyja zdareńni. Miž inšym 8-ha traŭnia sioleta minuła 35 hod ad taho času, kali na vostravie Mastinika vybuchnuŭ vulkan Pela i susim źniščyŭ miesta Sen-Per.

Było heta ŭ 1902 hodzie. Adčyniŭsia tady niedaloka Sen Per ziamny kacioł (biazdonnaja dziura), huknuli hromy, zatrasło ziamloj i z nutra jaje dychnuła strašnym ahniom i haračaj płyniaj z popiełam, ad jakoj zhinuła cełaje miesta z 20,000 žycharoŭ.

Zusim padobna było źniščana staradaŭnaje i pryhožaje miesta Pampeja ŭ Eŭropie, nad Neapalitanskim zalivam (ciapier u Italii).

Pampeja miesta, taksama z 20,000 žycharoŭ, u 63 hodzie pa naradžeńni Chrysta było źniščana ziemlatrasieńniem, a paśla ŭ 79 h. zasypana lavaj i popiełam z vulkanu Vezuvija. Siahońnia Pampeja častkava adkapana i źjaŭlajecca vielmi cikavaj i cennaj staradaŭnaj pamiatkaj.



Vulkan Vezuvij.

Ahułam ziemlatrasieńni i vulkany davoli časta prynosiać ludziam mnoha škodaŭ, asabliva-ž dziejańnie ich vielmi časta adčuvaje Japonija.

Ciapier na ziamli jość až 231 čynnych vulkanaŭ, jakija tak ci hetak vykidajuć z nutra ziamli masu ci h. zv. vulkaničnuju lavu, i 194 vulkany zhasšyja. Z hetaj kolkaści ŭ Eŭropie jość 8 vulkanaŭ čynnych i 3 zhasšyja, u Azii 93 čyn. i hetulki-ž zhasšych, u Amerycy 78 čyn. i 71 zhasšych, u Afrycy 7 čyn. i 8 zhasšych. Rešta vulkanaŭ znachodzicca na vastravoch Spakojnaha i Atlantyckaha akijanaŭ. *jn.*

# З КРАЮ

## Выйшлі з царквы.

Уселюб, Навградзкі павет. Нашыя вёскі ўжо дарасьлі грамадзка і палітычна. Сьведчыць аб гэтым зацікаўленьне школьнай акцыяй, пашана да беларускага друкаванага слова, хатняе навучаньне дзяцей, барацьба за родную мову ў сьвятыні і г. д.

На другі дзень Вялікадня, 3 мая сёлета праваслаўныя пастыры служылі ў нас у цэрквах малебіны папольску і таксама гаварылі навуку. Сяляне, не разумеючы іхняй гутаркі, выйшлі з царквы... Пры тым усе мы ня хочам у царкве і расейшчыны, а дамагаемся, каб у царкве гаварылі да нас пабеларуску.

Моладзь у нас у гэтым годзе сьвяткавала Першы Май. Праўда, сьвяткавалі без паходаў, сабраньняў, але ўсё-ж Сьвята Працы адсьвяткавалі разам з працоўнымі ўсяго сьвету.

*А. Д.*

## Не далі дазволу на беларускае прадстаўленьне.

в. Алекшычы, М.-Бераставіцкае вол., Горадзенскага пав. Палажэньне моладзі цяжкое. Мы нічога добрага ня чулі і ня бачылі, апрача брыдкіх слоў і дрэнных часта паступкаў старэйшых. Мы адсунуты ад роднае культуры; яна нам зусім няведамая. Праводзім жыцьцё ў шэрай будзёншчыне. Такія жыцьцёвыя варункі адбіваюцца на характары моладзі, слабейшыя адзінкі каторай пайшлі на благую дарогу ў бок дэмаралізацыі. Мацнейшая моладзь пачынае цікавіцца культурай і стараецца, каб чымнебудзь уразнастайніць шэрую будзёншчыну. Чуючы, што ў іншых мясцох моладзь праводзіць час вельмі карысна і прыемна— мы пастанавілі таксама нешта зрабіць. Рашылі ўзяцца за ладжаньне прадстаўленьняў. Дагаварыліся з вучыцелем польскае школы, каб паставіць у школе „Зьбянтэжанага Саўку“ і яшчэ адну п'еску польскую. Прыступілі да працы вельмі ахвотна. Кожная рэпэтыцыя стварала для нас свайго роду прыемнасьць. Мы пачулі, што пачынаем жыць новым радасным жыцьцём. У хуткім часе навучыліся ролі і чакалі нецярпліва таго дня, калі можна будзе выступіць на сцэне. Меліся ўжо слаць па дазвол, але ўлады нас паперадзілі. Горадзенскі школьны інспэктар, даведаўшыся аб гэтым — катэгарычна забараніў вучыцелю ставіць беларускую п'еску. Гэты адказ нас вельмі расчараваў і скрыўдзіў. Аднак мы будзем далей дамагацца свайго роднага беларускага і працаваць для дабра нашага адраджэньня ўсімі магчымымі спосабамі.

*Пакрыўджаныя.*

## Беларуска - польская вечарына.

в. Багудзенка, Наваградзкага пав. 9.V.37 у в. Багудзенка моладзь ладзіла спэктакль-вечарыну. Ставілі польскую п'есу „На вэндкэн” і беларускую „Пярэстая Красуля“. Спачатку хацелі ставіць „Лёгкі хлеб“, але Староства не дало дазволу на гэта. Людзей на вечарыне было многа. Былі нават госьці з вёсак за 15 кілям. Артысты аматары свае ролі выканалі добра. Асабліва добра ігралі Маня Б. і К. Гутар. Выступаў так-жа хор мясцовае моладзі пад кіраўніцтвам настаўніка Гутара. Асабліва прыгожа была выкананьне песьня „Прыляцелі гусі“. За пражытую культурна часіну на вечарыне і мастацкае выканане бел. песьні ад імя моладзі шлю падзяку таму, хто да гэтага прычыніўся.

*К. Л.*

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*Міхась Васілёк.* **З сялянскіх ніў.** Вершы. З партрэтам аўтара. 32 бач. Фармат 8⁰. Выданьне Р. Шырмы. Цана 50 гр.

Гэта ўжо другі зборнік нашага паэты. Першы, **„Шум баравы“**, выйшаў у 1928 г. (сканфіскаваны ў 1936 г.). Калі прыраўняем новы зборнік да першага, то мусім сьцьвердзіць, што М. Васілёк за гэты час „змужнеў“, і поэтычна, і ідэолёгічна. „З сялянскіх ніў жывыя адгалосы,“ якія нам прынёс паэта ў сваім новым зборніку, — гучаць пэўна і цьвёрда. Тут няма ўжо таго пачуцьця—мягкага тону, які прабіваецца ў **„Шуме баравым“**; тут, як з цэлых вершаў, так і паасобных мастацкіх зваротаў і прыёмаў чуваць сіла і пэўнасьць.

Дзеля сваей цеснай зьвязнасьці з нашым сучасным жыцьцём, вершы Васілька нам зразумелыя, простыя, блізкія.

Трэба яшчэ зьвярнуць увагу на густоўнасьць выданьня. Горш крыху з карэктай мовы. V.

**„Калосьсе“** — беларускі квартальны літаратурна-навуковы часапіс. — Кніжка 2 (11). Вільня 1937 г. Бач. 64, фарм. 8⁰. Цана кніжкі 50 гр. Падпіска на год 2 зл. Адрыс Рэдакцыі: Вільня, Завальная 1.

Другая кніжка „Калосься“ за 1937 год, падобна як і ўсе папярэднія багатая зьместам, пры тым большая часьць яе пасьвячана беларускай літаратуры. Адзіны гэты ў нас літаратурна-навуковы часапіс бязумоўна павінен падтрымліваць кожны інтэлігентны беларус, выпісваючы яго і акуратна аплачваючы падпіску.

**„Снапок.“** 16 бач., фарм. 8⁰, з ілюстрацыямі. Пад гэткім назовам пры царкоўным расейскім часапісе „Слово“ (Warszawa 4, Paryska 27), які выдае Праваслаўная Мітраполія ў Польшчы, пачаў выходзіць месячны беларускі часапіс для дзяцей. Часапіс гэты вельмі ўмела рэдагуе грам. С. Паўловіч. Зьмест першага нумару за месяц май размавіты і цікавы. Характар часапісу рэлігійна-народна-асьветны.

У асобнай падпісцы „Снапок“ каштуе на цэлы год 1 зл. Цана нумару 10 гр. Дастаць можна ў кнігарні „Пагоня“ (Вільня, Завальная 1). У справах рэдакцыйнага характару трэба зварочвацца да рэдактара грам. С. Паўловіча (Вільня, Папоўская 9—4).

Паяўленьне беларускага часапісу для праваслаўных беларускіх дзетак бязумоўна вітаем і жадаем яму належнага і памыснага разьвіцьця.

**„Pieraškoda“**—operetka ŭ 3-ch aktach. Z melodramy I. Łuckaha pierarabiŭ M. Š. Wilnia 1937 h. Vydańnie Biełaruskaj Teatralnaj knižnicy. Bač. 66, farm. 8⁰. C. 1 zł.

Dziakujučy „Biełaruskaj Teatralnaj Knižnicy“ biełaruski repertuar uściaž uźvialičvajecca. Novavydany tvor „Pieraškoda“ asnovany na imknieńni ŭdaŭca da žanićby z maładoj dziaŭčynaj, da katoraj jakraz zalacajecca jahony syn, maje mnoha śmiešnych scen, pieraplatanych, pieravažna, biełaruskimi narodnymi pieśniami. Aprača taho daje šyrokuju mahčymaść pakazać u hetaj operetcy bahaćcie biełaruskich nacyjanalnych tancaŭ i zvyčajaŭ, dy sposab zaručynaŭ. Zahanaj operetki jość toje, što šmat u joj scen vulharnych, biez katorych jana zusim mahła-b abyjścisia i ničoha nia straciła-b na komiźmie.

Škada pry tym, što nie padany pry knižcy melodyi pieśniaŭ, a taksama, što mała źviernuta ŭvaha na čyściniu biełaruskaj movy i karektu. Z. B.

# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

— „Беарускую Крыніцу" йзноў завесілі. Віл. Акружны Суд на прапанову адміністрацыйных уладаў, зацьвярджаючы канфіскату № 2 „Бел. Крыніцы" з дня 25.III.37, йзноў завесіў гэты часапіс.

— Водгукі рэвізіяў. Забраныя 28.XI.36 у часе рэвізіў у беларускіх дзеячоў у Вільні паліцыяй розныя дакумэнты і кніжкі бадай усім ужо часткова, або і цалком зьвернуты. Нічога не зьвярнута толькі Кс. рэд. Ад. Станкевічу.

— На 6 месяцаў у вастрог засудзіў 15.V сёл. Віленскі Гарадзкі Суд студэнта беларуса В. Склубоўскага за адзін з артыкулаў „Нашай Волі", якой быў ён рэдактарам.

— Кс. Ад. Станкевіч, які выяжджаў у Трускавец на лекі, 30.IV вярнуўся ў Вільню і прыступіў да працы.

— Беларуская Пілігрымка ў Кальварыю пад Вільняй сёлета пойдзе з касьцёла сьв. Мікалая ў нядзелю 6 чэрвеня, а гадз. 7 рана. Для ўсіх, хто хоча далучыцца да пілігрымкі, зборны пункт пры Завальнай вул. 1, у рэдакцыі „Chryścijanskaj Dumki". Там жа можна даведацца аб начлезе, як для людзей, так і для фурманак.

Абавязкам кожнага беларуса каталіка ёсьць старацца прыняць удзел ў гэтай пілігрымцы.

— Новыя гарманізацыі беларускіх народных песень. Малады беларускі кампазытар Аўгень Евец, абсольвэнт пэдагогічных клясаў варшаўскай кансэрваторыі, згарманізаваў на мяшаны хор дзьве беларускія народныя песьні: „Ой я п'яна, п'янелька" і „Там на ролі, на ральлі, там хадзілі жураўлі." Гарманізацыі адзначаюцца значнымі мастацкімі вартасьцямі.

— У Беластоку мясцовыя Беларусы зарганізавалі нядаўна Коопэратыўнае Т-ва Працаўнікоў Беларускага Тэатру „Полымя." Абшар дзейнасьці т-ва — тэрыторыя ўсяе Польшчы. Таварыства мае на мэце пашырэньне тэатральнае культуры сярод Беларусаў і фаховае асьветы ў сваіх сяброў, вядзеньне ўсялякіх тэатральных прадпрыемстваў, вядзеньне коопэратыўна-ўзгадаваўчай дзейнасьці і прапаганда сцэнічнага мастацтва і інш. Таварыства пачало ўжо працу дзеля зарганізаваньня струннага аркестру, хору і драматычнае трупы. Акружны суд у Беластоку дн. 5-га лютага зарэгістраваў гэтую беларускую коопэратыўную пляцоўку.

Беластоцкі Гарадзкі Стараста пакараў старшыню таварыства гр-ку Ганну Абуковіч штрафам 200 зл., паводле беластоцкай прэсы, за тое, што арганізацыя таварыства адбылася без адпаведнага паведамленьня адміністрацыйнай улады. Гэтысамы стараста ня даў таварыству дазволу зарганізаваць канцэрт у дзень 4-га траўня.

— „Вечар песьні і паэзіі рэгіональнай — літоўскай і беларускай," арганізаваны Т-вам Прыяцеляў Бібліатэкі ім. Врублеўскіх у Вільні ў дзень 6-га траўня, не адбыўся з прычыны забароны адміністрацыйнай улады. На вечары меўся выступіць ведамы Беларускі Хор гр. Р. Шырмы.

— Адведываньне Беларускага Музэю За першыя тры месяцы гэтага году Музэй адведала 777 асоб, што складае больш за палавіну лічбы адведальнікаў у працягу ўсяго 1936 году. У Музэі працавала некалькі маладых навукоўцаў, у тым ліку — прыезныя з Варшавы.

У сувязі з ладжаным у Вільні „Тыднем прапаганды музэяў", які трываў ад 18-га да 25 красавіка, за гэты час адведалі Беларускі Музэй 1816 асобаў, у тым ліку 33 экскурсіі.

— 9-га г. м. у Т-ве Прыяцеляў „Беларусаведы" пры Віленскім Унівэрсытэце адбылася лекцыя інж. Л. Дубейкаўскага аб будоўніцтве.

---

— Камісарыят Ураду ў Варшаве не зарэгістраваў статуту „Беларускага культурнага Таварыства." Зложаны рэкурс у міністэрства.

---

— Беларускі спэктакль у Рызе. Дня 17-га красавіка Беларускі Вучыцельскі Хаўрус саматужніцкім спосабам зарганізаваў у Рызе спэктакль. Была пастаўлена „Паўлінка" Купалы. Дапоўнілі праграму латвійскія і беларускія песьні, пяяныя салістамі. Спэктакль прайшоў удачна. Асабліва падабаліся публіцы песьні з п'есы: „А у садзе рэчанька", „Ці сьвет ці сьвітае" і „Кума мая, кумачка," выкананыя артыстамі пад кіраўніцтвам гр. Янкі Кудраўцава.

---

— Беларуская Фільгармонія ў БСРР. 25-га красавіка сёлета ў Менску адбылося ўрачыстаа адрыцьцё Беларускае Фільгармоніі.

# USIAČYNA

— Polskaja Partyja Sacyjalistaŭ, a taksama i „Stronictvo Ludove“ pastanavili na ŭsich svaich sabrańniach i publičnych viečach vynosić pastanovy z damahańniami źmieny vybarnaha zakonu ŭ Sojm i Senat i raspisańnia novych vybaraŭ u hetyja pałaty.

— Amerykanski vučony dr. Heyl z Chicago abličyŭ, što ziamielnaja kula važyć 6,000,000,000,000 milijonaŭ ton. Jasna, abličeńni hetyja niatočnyja, u kožnym razie havorać jany ab fantastyčnym ciažary našaj ziamli, jakaja krucicca (lacić) z skoraściu 30 klm. na sekundu.

— Litva sioleta maje ŭžo akančalna zakončyć ziamielnuju reformu. Pa zdabyćci niezaležnaści ŭ Litvie było 2.250 vialikich dvaroŭ z abšaram 706 tysiač hektaraŭ. Pry pravodžańni ziamielnaj reformy razparcelavana 2.230 dvaroŭ Lasy-ž henych dvaroŭ pierajšli na ŭłasnaść dziaržavy. Z abšarnickaj ziamli prydzielena małaziamielnym na dapaŭnieńnie małych sialanskich haspadarak 86,000 hektaraŭ. Aprača hetaha sarhanizavana 37.729 novych haspadarak. Z 280 tysiač hektaraŭ stvorany chutary ad 8 da 20 hektaraŭ, a z 52,800 haktaraŭ—chutary ad 2 da 8 hektaraŭ na jakich pasieleny biezziamielnyja sialanie. Škołam i instytucyjam hramadzkaje apieki prydziel eny 25,000 hektaraŭ. Sioleta majuć rasparcelavać apošnich 20,000 hek. Hetak staić sprava ziamielnaj reformy ŭ Litvie. Cikava, kali jana prynamsia hetak budzie vyhladać u nas?..

— 12-ha maja sioleta ŭ Londynie adbyłasia vielmi ŭračysta karanacyja Juraha VI karala Anhlijskaj Imperyi.

— U Hišpanii fašysty ŭsie svaje badaj siły skiravali na baskijski front, chočučy zdušyć biednyah baskaŭ, jakija adnak uściaž i zaŭziata baroniacca. Kala Madrytu pieravahu, choć nie vialikuju majuć uradaŭcy.

— Śviata Pracy sioleta ahułam prajšło spakojna. U Polščy asabliva davałasia adčuć toje, što ŭsie arhanizacyi, jakija śviatkavali 1-šy maj, rabili heta kožnaja na svaju ruku, nia było supolnaści. U Varšavie było arhanizavana až 7 pachodaŭ, pry tym na adzin žydoŭski pachod napała hrupa niejkich typaŭ i pačała stralać, u vyniku čaho akazałasia 7 asob ranienych, z katorych adna (mały žydok) pamiorła ŭ špitali. U Francyi 1-šy maj pakazaŭ niabyvały ŭzrost siłaŭ sacyjalistaŭ. U Maskvie adbyłosia 1-ha maja vializarnaja defilada-pachod, jaki byŭ pierahladam vajennych siłaŭ SSSR.



— 6-ha maja sioleta niedaloka Nju-Jorku zdaryłasia strašennaja katastrofa z niamieckim cepelinam „Hindenburgam,“ jaki ŭ časie pryviazyvańnia jaho da prystani, z niaviedamych pryčyn, zapaliŭsia U hetaj chvilinie ŭ cepelinie było 100 čałaviek, jakich jon pryvioz z Niamieččyny ŭ Ameryku. Ratavać ich nia było zusim mahčymaści, tak što niekatoryja pačali skakać, inšyja spuščacca na ziamlu pa viaroŭkach i h. d. U vyniku katastrofy „Hindenburg“ zhareŭ, 36 čałaviek zhinuła a 64 ciažka paparyłasia. Pryčyny pažaru dasiul niavyjaśnieny. (Na ilustracyi „Hindenburg“ pierad katastrofaj).

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

K. L.: Karespandencyju drukujem i prosim pisać čaściej.

M. Trachimiku: Hrošy atrymali „Šl. Moł.“ vysyłajem.

A. D.: Mataryjały atrymali, karespandencyju drukujem, budziem staracca taksama i inšyja drukavać, kali miesca pazvolić.

M. Z.: Ciešymsia, što našyje słovy znajšli naležny vodhuk. Adzin vieršyk drukujem, a druhi adkładajem na paśla. „Šlach Moładzi” budziem vysyłać.

T. Žyvaleŭskamu: Vieršy słabieńkija. Prosim pisać karespandencyi. Knižki vysłali. Radzim jak najbolš čytać. Za hrošy dziakujem.

M. B.: Piśmo zhodna z prośbaj pieradali ŭ BNA.

Mini Huki: Biełaruskija bukvary i knižki možacie vypisać z Biełaruskaj Kniharni „Pahonia“—Vilnia, Zavalnaja 1.

R. Bulbajedu: Apaviadańnie Vaša ništo-sabie, moža jści da druku, ale nam jano nie padchodzić svaim charaktaram. Jano najlepš nadavałasia-b da časapisu polskich vučycialoŭ. Vy možacie dobra pisać prozaj, dyk prosim piara nia kidać i pisać tvory, jakija-b adnosilisia da biełaruskaha žyćcia, ci prynamsia nia mieli-b charaktaru dalokaha dla našaha narodu.

Maładomu Biełarusu: Vieršy adnak słabyja i da druku nie padchodziać. Prosim pisać karespandencyi. U spravie niedaručańnia „Šl. Moł.” padali reklamacyi i vysłali Vam dadatkova. — Ci atrymali?

## Krychu śmiechu.

* * *

Vučań: V—i—e—p—r—z...
Vučyciel: Przeczytaj odrazu?
Vučań: Parsiuk!

Ch. M.

### U Berlinie

Pa vulicy Berlina bieh čałaviek i kryčaŭ: — „Nia treba nam užo fiurara“!

Palicyjant pačuŭšy heta zapyniaje jaho i kaža: — Jak ty kryčaŭ, što nam fiurara nia treba?

—Nu tak, bo my ŭžo adnaho majem.

* * *

— Čamu ty siadziš ŭ vastrozie? — zapytaŭsia ksiondz u viaźnia kryminalista.

— Bo, vojčanka duchoŭny, hetyja čerci staražy tak mocna pilnujuć, što ab uciakańni j dumać trudna!



*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар Я. НАЙДЗЮК.